№ 20
Кастрычнік 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"


Мінск, 30 кастрычніка 1988 г.

# Дзяды

30 кастрычніка 1988 года — незабыўная дата ў гісторыі Беларусі. У гэты дзень ўпершыню пасьля доўгага часу савецкай дыктатуры сабраўся шматтысячны мітынг з мэтаю ўшанаваць памяць продкаў, бо Дзяды — гэта Дзень Памінаньня продкаў. Ініцыятарам і арганізатарам акцыі была дэмакратычная моладзь, аб'яднаная ў маладзёжныя грамадскія суполкі па інтарэсах. Менавіта яны выступалі галоўным каталізатарам падзеяў у тыя гады ў Беларусі.

Улады паспрабавалі жорстка і гвалтоўна адказаць на ініцыятыву аднаўленьня народнай традыцыі. Правядзеньне акцыі было забароненае, а заяўляльнікаў мітынгу гарадская пракуратура афіцыйна папярэдзіла пра крымінальную адказнасьць у выпадку якіх-небудзь парушэньняў з боку дэманстрантаў.

Але моладзь не пахіснулася. На рэдкім у тыя часы ксераксе было надрукавана 12 тысячаў улётак-запрашэньняў, і ноччу за два дні да Дзядоў імі былі заклееныя пад'езды мінскіх дамоў. У сваю чаргу ўлады зьмясьцілі афіцыйнае папярэджаньне ў прэсе пра забарону акцыі і гэтым самым прыцягнулі яшчэ большую ўвагу гараджанаў. Вырашыў падтрымаць мітынг і толькі што створаны аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

На месца правядзеньня мітынгу — да Маскоўскіх могілак — прыйшло некалькі тысячаў мінчукоў. Іх там ужо чакалі тысячы міліцыянтаў, сьцягнутых з усёй Беларусі, пажарныя машыны і «варанкі». Адразу ж перад пачаткам мітынгу пачаўся захоп актывістаў. Міліцыя, ужываючы сьлезацечны газ і гвалт, спрабавала разагнаць людзей. Але большасьць з іх рушыла на Курапаты, туды, дзе ў трыццатыя гады былі растраляныя сотні тысяч невінаватых людзей.

Курапаты былі ачэпленыя, і рэдкія адзінкі здолелі прайсьці туды, астатнія ж правялі мітынг у полі, на ўзгорку. Тады ж, упершыню быў адкрыта ўзняты беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, забаронены ўладамі. Гэты сьцяг стаў сімвалам дэмакратыі і антыкамунізму ў Беларусі.

У гэты ж дзень дзесяткі людзей былі асуджаныя за ўдзел у Дзядах. Абурэньне грамадскасьці неадэкватнай рэакцыяй уладаў было вялікім. У выніку тысячы людзей актыўна далучыліся да толькі што народжанага

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

***17 кастрычніка*** **Цьнянская Рада БНФ правяла пікет на плошчы Якуба Коласа ў Мінску. Мэта пікету — прыцягненьне ўвагі грамадскасьці да стану правоў чалавека, а таксама — аказаньне маральнай падтрымкі палітзьняволеным.**

***17 кастрычніка*** **на беларуска-украінскай мяжы беларускія мытнікі і супрацоўнікі КДБ канфіскавалі дзьве тысячы асобнікаў «Беларускіх ведамасьцей», якія выдае за мяжой старшыня БНФ «Адраджэньне» З.Пазьняк. У гэтым годзе канфіскацыя адбываецца ўжо другі раз.**

***У ноч з 17 на 18 кастрычніка*** **на асьвятляльнай мачце мінскага стадыёна «Дынама» зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг.**

***19 кастрычніка*** **ў Мінску на плошчы Якуба Коласа адбыўся пікет, прысьвечаны 10-ым угодкам стварэньня БНФ «Адраджэньне».**

***19 кастрычніка*** **старшыня гомельскай арганізацыі Беларускага Хельсінкскага камітэту Яўген Мурашка правёў пікет каля Гомельскага гарвыканкама. Ён трымаў у руках плакат: «Злачынная тая ўлада, якая парушае правы сваіх грамадзянаў». За гэты пікет ён быў аштрафаваны на 7 мільёнаў.**

(Працяг на стар. 2)

дэмакратычнага руху — Арганізацыйнага камітэту БНФ «Адраджэньне». Гэта была ўжо барацьба не дзесяткаў, а сотняў і тысячаў, што і прывяло, у выніку, да падзеньня камуністычнага рэжыму.

З тых часоў штогод на Дзяды тысячы людзей праходзяць шлях да Курапатаў. Рэвізія дэмакратычных заваёваў, якую праводзіць А.Лукашэнка, датыкнулася і Курапатаў. У 1997-98 гадах па заяўцы групы сталіністаў, якія сьцьвярджалі, што ў Курапатах былі растраляныя гамбургскія габрэі падчас вайны, рэспубліканская пракуратура правяла чарговыя масштабныя дасьледаваньні. У тым ліку былі раскапаныя некалькі пахаваньняў і дасьледаваныя парэшткі 600 чалавек, знойдзеныя ў іх. Нягледзячы на ўсё стараньне пракуратуры ў гэтай заказной справе, аніводнага доказу растрэлаў падчас вайны знойдзена не было.

У Курапатах перадлукашэнкаўскія ўлады паставілі камень, на якім напісана, што з цягам часу на гэтым месцы будзе пастаўленая капліца ў памяць забітых тут людзей. Але з пэўнасьцю можна сказаць, што сёньняшнія ўлады ніколі не паставяць гэтую капліцу, бо паводзіны і замашкі прэзідэнта А.Лукашэнкі ідэйна родныя замашкам і паводзінам тагачаснага дыктатара І.Сталіна. Прырода дыктатуры аднолькавая і ня мае значэньня, колькі палітычных зьняволеных сядзіць у турме — дзесяць ці дзесяць тысяч.

Паставіць капліцу ў Курапатах — гэта значыць прызнаць памылкі тагачаснага дыктатара і ледзь ня ўласныя памылкі, якіх для А.Лукашэнкі не існуе.

**АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ**

---

# ХРОНІКА

*(пачатак на стар. 1)*

***21 кастрычніка*** **начальнік аховы Мінскага Аўтамабільнага завода з двума ахоўнікамі затрымалі ў прахадной актывістаў Свабоднага прафсаюза МАЗа М.Карповіча, М.Марыніча і Г.Хазана, якія несьлі рабочым матэрыялы паседжаньня заводскага Савета Свабоднага прафсаюза. Ахова пры затрыманьні ўжыла фізічную сілу. У гэты ж дзень старшыня Савета Свабоднага прафсаюза МАЗа зьвярнуўся да пракурора Заводскага раёну з хадайніцтвам аб узбуджэньні крымінальных справаў у адносінах ахоўнікаў, якія дапусьцілі супрацьпраўныя дзеяньні.**

***22 кастрычніка*** **на плошчы Якуба Коласа ў Мінску адбыўся пікет у абарону беларускай мовы.**

***23 кастрычніка*** **актывісты Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў у межах ініцыятывы «Свабоднае слова ў прамы эфір» правялі чарговы пікет у раёне станцыі метро «Пушкінская».**

***25 кастрычніка*** **ў Мінску адбыўся ўстаноўчы зьезд новай грамадскай арганізацыі — «Беларускай асацыяцыі вязьняў рэжыму першага прэзідэнта».**

***28 кастрычніка*** **галоўны партыйны функцыянер КПБ, намесьнік Мінскага гарвыканкама В.Чыкін забараніў рабочым МАЗа правядзеньне мітынгу пратэсту супрац жабрацкай зарплаты (40 долараў ЗША па рынкавым курсе).**

***30 кастрычніка*** **адзначаўся Сусьветны дзень абароны палітвязьняў.**

***30 кастрычніка*** **ў мікрараёне Усход сябры БНФ наладзілі пікет, прысьвечаны падзеям 1988 года, калі быў наладжаны першы масавы мітынг з нагоды нацыянальнага сьвята «Дзяды». У пікеце прымалі ўдзел актывісты Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Праваабарончага цэнтру «Вясна-96». Пікетчыкі трымалі плакаты: «Вясна-96» супраць палітычных рэпрэсіяў», «Свабоду палітвязьням», а таксама раздавалі людзям бюлетэні «Права на волю». Варта нагадаць, што менавіта ў гэтым месцы ў 1988 годзе быў наладжаны першы масавы мітынг. Тады галоўнымі ініцыятарамі мітынгу выступілі старшыня літаб'яднаньня «Тутэйшыя» Алесь Бяляцкі і паэт Анатоль Сыс. Мітынг быў жорстка разагнаны міліцыяй з дапамогай дубінак і сьлезацечнага газу, шмат людзей было зьбіта і дастаўлена ў пастарункі.**

***30-31 кастрычніка***, **напярэдадні Дня Памінаньня продкаў, актывісты БНФ «Адраджэньне» усклалі кветкі ў месцах масавага растрэлу грамадзянаў падчас сталінскіх рэпрэсіяў — мінскіх парках Лошыца і Чалюскінцаў.**



# «МОВА НЕ ПАВІННА СТАЦЦА РАЗЬМЕННАЙ МАНЕТАЙ!»

22 кастрычніка Таварыства Беларускай Мовы наладзіла на плошчы Якуба Коласа ў Мінску пікет у падтрымку дзяржаўнай мовы — самай безабароннай і самай пакуль што неўміручай зьявы у гэтай самай дзяржаве.

Няхай няшмат сабралася людзей, але сёньня гэта ўжо не зьяўляецца паказчыкам грамадскай актыўнасьці. Практыка сьведчыць, што вялікая колькасьць прадстаўнікоў «сярэдняга класу» (ён у Беларусі толькі нараджаецца) імкнецца аддаваць дзяцей у беларускамоўныя школкі і класы, тлумачачы гэта спадзяваньнем на будучыя перамены.

«Мы павінны пазбавіцца ад захадаў зрабіць беларускую мову зброяй палітычнай барацьбы, але вартасьць кожнага палітыка павінна вымярацца менавіта ягоным стаўленьнем да беларускай мовы і беларускай культуры, бо гэта зьяўляецца сінонімам падыходу палітыка да розных рэчаў з пункту погляду нацыянальных каштоўнасьцяў. Мы павінны супрацоўнічаць з усімі, хто жадае перш-наперш адстойваць беларускасьць як пляцоўку для дзеяньня палітыкаў больш маладога пакаленьня», — гучала на мітынгу.

На пікеце Таварыства Беларускай Мовы працягвала збор подпісаў пад зваротам аб адкрыцьці нацыянальнага ўніверсітэту, дзе б усе дысцыпліны выкладаліся на спрадвечнай мове беларусаў.

На пікеце выступалі старшыня Таварыства Беларускай Мовы Генадзь Бураўкін, паэт Міхась Скобла, прадстаўнікі ТБМ з Вільні Хведар Нюнька, барды Андрэй Мельнікаў і Ігар Мухін-Рабянок.

**М.А.**

***19 кастрычніка 1998 г. споўнілася 10 гадоў з дня стварэньня Арганізацыйнага камітэту Беларускага Народнага Фронта «Адраджэньне» (БНФ). З гэтай нагоды на плошчы Якуба Коласа ў Мінску адбыўся пікет, а ў Палацы культуры тонкасуконнага камбіната — сьвяточная імпрэза.***



Мінск, плошча Якуба Коласа, 19 кастрычніка 1998 г.

# За дзесяць гадоў...

Арганізацыйны камітэт БНФ быў створаны 19 кастрычніка 1988 года адначасова з гісторыка-асьветніцкім таварыствам памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралог Беларусі» на Усебеларускім сходзе грамадскіх прадстаўнікоў, які адбыўся ў касьцёле сьв. Сымона і Алены (у той час там месьціўся Дом кіно).

На сходзе прысутнічала 350 чалавек. Акрамя гэтага, у зале былі функцыянеры ЦК і людзі ў цывільным, якія адмовіліся рэгістравацца і называць свае прозьвішчы. Старшыня БНФ «Адраджэньне» Зянон Пазьняк сьцьвярджаў: «Бюракратычныя функцыянеры і тыя, хто не зарэгістраваўся і прыйшоў за дзьве гадзіны да пачатку сходу, стараліся ўсяляк перашкодзіць яго нармальнай рабоце, «утапіць» канструктыўныя разважаньні ў дэмагогіі, адвесьці тэму гаворкі ўбок і зацягнуць час, груба ўмешваліся ў працэс галасаваньня. Асабліва нетактоўна і яўна правакацыйна паводзіў сябе супрацоўнік ЦК КПБ Р.Бузук, які імкнуўся перашкодзіць вядучаму М.Дубянецкаму весьці галасаваньне». Варта адзначыць, што менавіта на Устанўчым сходзе грамадскіх прадстаўнікоў упершыню зьявіліся дружыньнікі з бел-чырвона-белымі павязкамі на рукавах, якія адказвалі за парадак правядзеньня сходу. Калі супрацоўнік ЦК КПБ Р.Бузук спрабаваў сарваць ход галасаваньня, да яго падыйшлі старшыня Літаратурнага аб'яднаньня «Тутэйшыя» Алесь Бяляцкі і сябра «Талакі» Вадзім Александровіч і прымусілі пакінуць трыбуну. Партыйны функцыянер быў у шоку, бо зразумеў — ягоны час скончыўся, нараджалася новая палітычная сіла.

30 кастрычніка, пасьля жорскай расправы афіцыйных уладаў з удзельнікамі сьвяткаваньня нацыянальнага сьвята «Дзяды», вакол БНФ пачынае гуртавацца прагрэсіўна настроеная частка грамадства. Паўсюдна ствараюцца групы падтрымкі Народнага Фронту, пачынае выходзіць газета «Навіны Беларускага Народнага Фронту».

Прадстаўнікі БНФ бяруць удзел у выбарах 1990 году. Фракцыя БНФ (35 чалавек, г.зн. 10 працэнтаў ад агульнай колькасьці дэпутатаў), прадстаўленая ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, здолела дамагчыся абвяшчэньня суверэнітэту Рэспублікі Беларусь (1991 г.), зацьверджаньня ў якасьці дзяржаўных сімвалаў спрадвечных нацыянальных бел-чырвона-белага сьцяга і герба «Пагоня». Беларуская мова набыла статут дзяржаўнай.

Дэпутаты фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня першымі сталі змагацца супраць дыктатуры. У той час, калі рэжым Лукашэнкі толькі пачаў усталёўвацца, дэпутат Сяргей Антончык выступіў з дакладам, які выкрываў злоўжываньні новай улады.

У траўні 1995 г. дэпутаты-апазіцыянеры абвясьцілі галадоўку ў знак пратэсту супраць антынароднага рэферэндуму. Яны былі жорстка зьбітыя сьпецназам у авальнай зале Дому ўраду.

На працягу 10 гадоў сябры БНФ неаднаразова падвяргаліся рэпрэсіям — ад грашовых штрафаў і зьбіваньняў на вуліцы — да турэмнага зьняволеньня. Старшыня БНФ Зянон Пазьняк і сакратар Управы БНФ былі вымушаныя эміграваць пад пагрозай арышту.

БНФ «Адраджэньне» быў утвораны насуперак практыцы сацыялістычнага будаўніцтва і логіцы «камуністычнай будучыні». Беларускі Народны Фронт быў адразу залічаны партыйнай наменклатурай у лік сваіх ворагаў. Падставаў для гэтага было дастаткова — усе праграмныя дакументы БНФ сьведчылі аб тым, што ў выніку іх рэалізацыі кіраўніцтва КПБ ня толькі згубіць сваю ўладу, але і можа быць прыцягнутым да адказнасьці за свае дзеяньні. Грозным знакам такой рэальнасьці сталі раскопкі, якія правёў у Курапатах Зянон Пазьняк. БНФ і на сёньняшні дзень зьяўляецца асноўнай пагрозай для існаваньня партыйнай савецкай наменклатуры, якая зноў набыла неабмежаваную ўладу ў прасторы прэзідэнцкай «вертыкалі».

Беларускі Народны Фронт — рэальная палітычная сіла, якая выступае за нацыянальнае адраджэньне Рэспублікі Беларусь і яе эканамічны рост, за захаваньне правоў і свабодаў чалавека.

**ІНФАРМАЦЫЙНЫ АДЗЬДЗЕЛ «ВЯСНЫ-96»**

# Затрыманы беспадстаўна, але... законна

22 кастрыніка ў судзе Ленінскага раёну г. Мінска была разглежаная справа маладафронтаўца Віктара Жагуня.

25-гадовы Віктар Жагунь прасіў суд адмяніць штраф за «парушэньне правілаў дарожнага руху», накладзены на яго Цэнтральным райсудом 6 траўня 1998 г.

На самай справе «парушэньне» зьдзейсьніла група невядомых людзей у цывільным, якія 5 траўня, пасьля заканчэньня выступленьня моладзі ў падтрымку палітвязьняў, накінуліся на ўдзельнікаў гэтай акцыі. Ратуючыся ад людзей у цывільным, Віктар Жагунь трапіў пад машыну.

Судзьдзя Валянціна Крывая, разгледзеўшы скаргу Віктара Жагуня, адмовіла ў адмене штрафу. Хаця з самага пачатку было відавочна, што дарожна-транспартнае здарэньне адбылося не па віне В.Жагуня.

Судзьдзя В.Крывая выклікала ў якасьці сьведкаў супрацоўнікаў міліцыі, якія 5 траўня прымалі ўдзел у затрыманьні моладзі. Ніхто са сьведкаў ня змог узгадаць, хто менавіта з іх калегаў затрымліваў Віктара Жагуня.

Яскравай дэталлю паказаньняў супрацоўнікаў міліцыі была іх упэўненасьць у тым, што калі ў горадзе адбываецца любая акцыя апазіцыі, то «парушэньні заўсёды ёсьць». Значыць, такія, як Віктар Жагунь, для міліцыі заведама «вінаватыя».

Вынік «справы Жагуня» сьведчыць аб імкненьні праваахоўных органаў утойваць выпадкі парушэньня закону з боку міліцыі ад шырокіх колаў грамадства. Калі б у судзе былі названыя імёны выканаўцаў і быў адменены незаконны штраф — быў бы створаны прэцэдэнт. Гэта значыць, што кожны чалавек, які пацярпеў ад міліцыі, мог сьмела падаваць скаргу ў суд і адстойваць свае правы. Але менавіта гэтага сеньняшні рэжым баіцца. Бо трымаецца гэты рэжым на падмане, страху і нявер'і.

Справа Віктара Жагуня выразна дэманструе сапраўдны стан праваў судзьдзя ў Беларусі.

**ТАЦЬЦЯНА СЬНІТКО**



**В. Жагунь-Шаркоўскі (на здымку злева) на адным з пікетаў.**

У 1994 годзе, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, я праходзіў тэрміновую службу ў беларускім войску. У падразьдзяленьні, дзе я служыў, абмяркоўвалася кандыдатура першага прэзідэнта Беларусі. Мае саслужыўцы ў большасьці схіляліся да кандыдатуры сп. Кебіча. Для сябе я зрабіў выбар! Гэтым выбарам была Нацыянальная ідэя і, як яе носьбіт, сп. Зянон Пазьняк.

Пасьля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах А. Лукашэнкі мне стала зразумела, што наперадзе — барацьба за Нацыянальную ідэю, барацьба за беларускую нацыю, за яе адраджэньне. Такую выснову я зрабіў. Падцьверджаньне яна атрымала ў маёй сьвядомасьці пасьля рэферэндуму 1995 года, калі былі зьмененыя дзяржаўныя сімвалы.

Зьвесткі пра вынікі рэферэндума я ўспрыняў як імпульс да дзеі. Я наведваўся ў сядзібу Беларускага Народнага Фронту, і там пазнаёміўся з асноўнай дзейнай сілай за адраджэньне Беларусі. Стаць сябрам руху я вырашыў яшчэ ўвосень 1994 года, але мая заява згубілася, і амаль паўгады я заставаўся па-за шэрагамі арганізацыі. Увесну 1995 года, падаўшы яшчэ адну заяву і атрымаўшы запрашэньне наведаць паседжаньне, я быў прыняты ў шэрагі БНФ.

Пікам змаганьня стала вясна 1996 года. Упершыню рэжым вырашыўся паказаць свой сапраўдны твар. Насуперак чалавечай плыні, якая цячэ па праспекце Ф. Скарыны ў бок пляцу Незалежнасьці, паўстаюць шэрагі міліцыянтаў, праспект перагарожваюць міліцэйскія аўтамабілі. Але гэта ня можа спыніць людзей...

За вясну і восень 1996 года судамі Мінска былі пакараныя і пазбаўленыя волі сотні чалавек.

Рэпрэсіі не спыніліся і ў 1997 годзе. Вясна зноў набыла трагічнае аблічча: з аднаго боку — служкі рэжыму, з другога — абаронцы незалежнай Беларусі. Супрацьстаяньне ўзмацняецца і акрэсьліваецца як раскол беларускага грамадства. Зьніжаецца жыцьцёвы ўзровень, расьце незадаволенасьць насельніцтва краіны.

БНФ ладзіць шэраг масавых акцыяў, дзе ўвага скіроўваецца як на сацыяльныя пытаньні, так і на праблемы нацыянальнае бясьпекі.

# «Для сябе я зрабіў выбар!»

**Нататкі Віктара Жагуня-Шаркоўскага — яшчэ адна старонка змаганьня маладога пакаленьня за незалежную Беларусь.**

Тут жа паўстае праблема палітычных зьняволеных. Чарговая акцыя, якую праводзіў Малады Фронт разам з БНФ, адбылася 5 траўня. Арганізатарамі шэсьця і мітынгу былі сябры Маладога Фронту. З Мінгарвыканкама атрымалі афіцыйны дазвол на мерапрыемства. Усё прайшло без заўваг з боку «ахоўнікаў правапарадку», аднак пасьля некалькі чалавек былі арыштаваныя, у тым ліку і я.

Група моладзі, адзьдзяліўшыся ад асноўнае масы на пл. Парыжскай Камуны, накіравалася на прыпынак «вул. Камуністычная». Калі мы выйшлі са скверу каля Опернага тэатра, да нас падбеглі хлопцы з Беларускага Хельсінкскага Камітэту. Яны паведамілі пра шпікоў. Азірнуўшыся, я заўважыў некалькі чалавек. Яны ішлі воддаль: было відаць, што адсочваюць нашае перамяшчэньне. Нікога з нас гэта не напалохала, бо не ўпершыню прыходзілася сутыкацца з супрацоўнікамі сьпецслужбаў пры такіх абставінах. Так нашая група дайшла да прыпынку пад нястомным наглядам шпікоў.

Як толькі мы спыніліся на прыпынку, да яго тут жа пад'ехала некалькі аўтамабіляў. Машыны нічым не адрозьніваліся ад тых, што праязджалі міма; адзінае, што адразу кінулася ў вочы, — зацемненыя шыбы. З аўтамабіляў жвава пачалі выскокваць людзі ў цывільным, да іх далучыліся шпікі. Яны кінуліся да тых, хто стаяў на прыпынку, сталі іх хапаць і штурхаць да машын. Пры гэтым не прадстаўляліся, не паказвалі аніякіх пасьведчаньняў. Двое накіраваліся да мяне. Я нават не пасьпеў зразумець, што адбываецца, калі мяне ўжо трымалі за рукі і спрабавалі запіхнуць у аўтамабіль. Страх дапамог мне вылузацца з іх лапаў, і я апынуўся паміж дзвума машынамі на праезджай часты вуліцы.

Калі вярнулася нармальнае ўспрыманьне рэчаіснасьці, мяне ўжо ніхто не трымаў. Агледзеўшыся, кінуў погляд на прыпынак: там мітусіліся нейкія людзі, тузаліся, крычалі. Адных запіхвалі ў машыны, і яны не супраціўляліся, іншыя спрабавалі вызваліцца. Мільганула думка: уцячы, і я вырашыў перабегчы на супроцьлеглы бок вуліцы. Хуценька агледзеўшыся, кінуўся праз дарогу. Да прыпынку пад'ехаў аўтобус, закрыўшы агляд, але чакаць было небясьпечна.

Апынуўшыся на праезджай частцы, краем вока я заўважыў, што да мяне набліжаецца машына чырвонага колеру. У гэты ж момант за мной у пагоню кінулася некалькі чалавек. Перабегчы вуліцу не ўдалося. Мяне зьбіў чырвоны «Опель-Амега». Не пасьпеўшы «прызямліцца», я быў падхоплены і пацягнуты ў адзін з вышэйзгаданых аўтамабіляў з прыцемненымі шыбамі. Не зважаючы на дарожнае здарэньне і кроў, якая цякла з маіх ранаў, замест выкліку хуткай дапамогі мяне закінулі ў машыну, дзе знаходзілася ўжо некалькі чалавек.

Мяне, як і ўсіх затрыманых, усяго 10 чалавек, адвезьлі ў Цэнтральны РАУС, адвялі ўсіх у залу. Хлопцы патрабавалі тэрмінова выклікаць хуткую дапамогу, але марна: мяне забралі і павялі на допыт. Допыт праходзіў у кабінеце дзяжурнага, праводзіў яго к-н. Перапяліца. Хуткая дапамога прыехала толькі праз гадзіну, але нават не зважаючы на гэта, допыт працягваўся. Пазьней, у шпіталі, я запытаў: «Адкуль яны атрымалі выклік?» Адказалі: «Выклік паступіў з сядзібы БНФ». Медыцынская сястра, зрабіўшы мне перавязку, мусіла чакаць заканчэньня допыту.

У шпіталі мне зашылі рану на патыліцы, правялі дасьледаваньне і адпусьцілі дадому, параіўшы зьвярнуцца ў лякарню.

Гісторыя на гэтым ня скончылася і мела працяг у размове з прадстаўнікамі ДАІ. Не паглыбляючыся ў падзеі, яны узялі тлумачэньні і тут жа на месцы склалі пратакол. Выдалі выклік і загадалі на наступны дзень зьявіцца за пастановай аб спагнаньні штрафу (250 тысячаў) «за парушэньне правілаў дарожнага руху». Далей усё пайшло паводле вядомага сцэнарыя: заява ў пракуратуру на незаконныя дзеяньні міліцыянтаў, скарга ў суд на пастанову начальніка ДАІ. Пачаліся судовыя працэсы, якія ўвесь час адкладаліся. Недзе праз паўтары месяцы пракуратура дала адказ, што парушэньняў у паводзінах дэманстрантаў не назіралася, і міліцыянты сваімі дзеяньнямі груба парушылі заканадаўства.

Судзьдзя зьвярнуўся яшчэ раз з запытам у пракуратуру. Адказ быў зусім іншы: зараз ужо пракуратура знайшла і склад злачынства, і ўбачыла фармальныя парушэньні ў дзеяньнях дэманстрантаў, але не знайшла парушэньняў з боку міліцыянтаў. Яны ўсё рабілі «правільна і ў межах закону».

Выклікае зьдзіўленьне тое, што ў абодвух выпадках адказваў пракурор Цэнтральнага раёна Мінска, старэйшы дарадца юстыцыі сп. С. Рубіс. Менавіта другім адказам і кіравалася судзьдзя сп-я. В. Крывая, калі выносіла рашэньне па маёй скарзе. Вынік быў зразумела які: пакінуць скаргу без задавальненьня, а пастанову начальніка ДАІ прызнаць правамоцнай. У чарговы раз стала відавочна, што праўдай зьяўляецца толькі тое, што выгадна для ўладаў. І гэта будзе цягнуцца да таго часу, пакуль у нашай краіне не ўсталюецца дэмакратычны лад.

**ВІКТАР ЖАГУНЬ-ШАРКОЎСКІ**

# Жыцьцё за імгненьні волі

## Узгадаем пра паўстаньне вязьняў, якое адбылося ў Нарыльску восеньню 1957 года

Дзяржаўная прэса ізноў узьняла валтузьню вакол сталінскіх рэпрэсіяў, што крывавым колам пракаціліся па Беларусі, выбіваючы лепшых. Шматлікія публікацыі ў дзяржаўных газетах ізноў вяртаюць нас да гэтай тэмы, а аўтары іх спрабуюць апраўдаць бальшавіцкі генацыд усеабдымнымі словамі: «так было трэба». Наважваюцца яны кранаць і балючы для Беларусі перыяд у гісторыі сталінізму — 1944-46 гады, калі па этапах пайшло цэлае пакаленьне, тысячы юнакоў і дзяўчат, што былі падчас нямецкае акупацыі сябрамі Саюза Беларускае Моладзі. Галоўная і апошняя старонка дзейнасьці сяброў гэтай арганізацыі — у ГУЛАГу.

За кратамі лагерных баракаў уздымаўся рух Супраціву, і першымі сярод паўстанцаў былі ледзь пасьпеўшыя пасталець сябры СБМ, якім афіцыйная Радзіма не даравала любові да Радзімы сапраўднае.

«Для мяне суполка СБМ, дзе я быў усяго толькі шараговым сябрам, была школай выхаваньня, а не арганізацыяй дзеяньня, — распавядае адзін з лідэраў руху Супраціву ў ГУЛАГу Рыгор Клімовіч. — У СБМ мы вучыліся хіба што нацыянальнай сьвядомасьці. Потым, у часы самых жорсткіх пакутаў, былая СБМаўская еднасьць ня толькі дапамагла захаваць у сабе чалавечыя якасьці, але і стаць начале руху вязьнеўскага Супраціву...»

У ГУЛАГу, па словах Рыгора Клімовіча, сярод беларусаў было шмат годных людзей.

Прыклад нацыянальнага яднаньня ў сталінскіх лагерах падалі ўкраінцы. Хутка і беларусы пачалі ствараць свае нацыянальныя баракі, брыгады, вучыць мову і песьні. У Нарыльску, дзе ў славутым паўстаньні вязьняў удзельнічала больш за тысячу беларусаў, адным з першых ствараць нацыянальныя суполкі ў бараках пачаў Алесь Стэльмах — былы СБМавец з Віцебшчыны. Пасьля далучыўся Іван Раманчук, ваўкавыскі настаўнік, які да канца прайшоў свой пакутніцкі шлях. Недзе ў лагерах у канцы 60-ых губляецца ягоны сьлед.

Калі рэштку ўдзельнікаў патопленага ў крыві Нарыльскага паўстаньня прывезьлі ў Азерлаг, вязьні-беларусы стоячы сустракалі ля лагернае брамы паўстанцаў.

4-ае адзьдзяленьне Гарлагу, у якім у 1957 годзе знаходзіўся Клімовіч, адным з першых падтрымала стыхійны пачатак паўстаньня. Зьняволеныя вылучылі лозунг: «Сьмерць ці свабода». Клімовіч і ўкраінец Кляшчанка ўзялі на сябе адказнасьць за паўстаньне, забараніўшы рабіць гэта тым, каго чакалі на волі сем'і і бацькі.

За тыдзень да падаўленьня паўстаньня кіраўніцтва ім ад Кляшчанкі і Клімовіча прыняў на сябе ўкраінец Сяргей Грыцян. Дзень за днём, абложаныя войскамі НКУС, вязьні ўтрымлівалі вызвалены ад ВОХРаўцаў лагер. У апошні дзень супрацьстаяньня паўстанцам паведамілі па радыё, што яны маюць паўгадзіны на роздум. Кожныя пяць хвілінаў нкусаўцы паўтаралі праз усе рупары: «Ня бойцеся Грыцяна і Недаростказа, выходзьце з лагеру!» Кожны атрымаў права выбару.

Тым, хто жадаў захаваць сваё жыцьцё, было загадана выходзіць з лагеру. Ксёндз Лагусевіч зьвярнуўся да вязьняў з просьбай пакінуць лагер, бо застацца там — значыць ісьці на самагубства. Большасьць вязьняў пацягнулася да прахадной. Засталіся толькі тыя, каму губляць не было чаго. Сярод іх і Сяргей Грыцян.

Клімовіч з сябрамі адыйшлі ў бок ад калоны вязьняў, якія пакідалі лагер. Грыцян спытаўся: «А вы чаго?» «Вас чакаем, бо ўсё роўна паасобку выдзернуць на прахадной. Застаемся і мы», — адказаў Клімовіч. Грыцян папярэдзіў: «Вы ж паміраць будзеце, і, магчыма, не растраляюць, а будуць біць у 12 пераменаў. Калі і да гэтага гатовыя — абдымемся». З гэтымі словамі Грыцян узяў мікрафон і пачаў шыхтаваць тых, хто застаўся.

«Ён ня славы шукаў, ён сьмерці шукаў», — скажа пра яго Рыгор Клімовіч праз шмат гадоў. Асабліва ж запомніўся яму адзін беларус, стары, якому заставаўся месяц да вызваленьня. Ён адмовіўся выйсьці з лагеру, хаця казалі яму: «Ідзі». Сказаў: «Не, тут, з вамі, і паміраць буду».

Нарыльскае паўстаньне было падаўленае найбольш жорстка. 5-ае адзьдзяленьне вязьняў, амаль 1000 чалавек, палегла ўсё. Той жа лёс напаткаў 13-ае, шмат ахвяраў панесла і 4-ае адзьдзяленьне. Беларусы занялі самыя небясьпечныя пазіцыі падчас штурму, калі лагер (а сярод вязьняў было шмат тых, хто вызваляў Еўропу ад фашызму) прымаў свой апошні бой. Лом і бітую цэглу вязьні супрацьпаставілі вогненаму шквалу, абрынутаму на іх войскам НКУС.

Калі лагер быў растраляны, і 5000 чалавек знайшлі сваё вечнае супакаеньне ў сібірскае зямлі, астатніх пагрузілі на баржы і павезьлі ў Азерлаг. Мінулі Енісейскія парогі, і тады Клімовіча паклікала да сябе ўкраінская «вярхушка» з УПА: Герман Сьцепанюк, прафесар Паўлішын, прапагандыст Міхал Марошка. «Даплывем да Чырвонага Рогу, там нас разьдзеляць, і ўсё забудзецца, — сказалі яны. — Трэба напісаць Нарыльскі гімн. Мова павінна быць расейская, бо гэта мова ГУЛАГу, мелодыю возьмем украінскую, а пісаць будзеш ты, беларус». Аўтарам адвялі куток на баржы, украінцы пачалі перабіраць мелодыі. Спыніліся на песьні «Той алень, што загнаны ў балоты». Да ранку Клімовіч напісаў і тэкст.

*... Мы стали рядом, брат около брата,*
*За право жить без тюрем и цепей.*
*Напрасно смерть дышала с автоматов*
*И псы рычали в ярости своей...*

Першы раз вязьні сьпявалі свой гімн на баржы, стоячы. Праз год яго сьпяваў увесь Азерлаг.

Рыгор Клімовіч яшчэ ня раз атрымліваў новыя прысуды — за напісаньне вершаў і распаўсюджваньне іх сярод вязьняў, за тое, што вакол яго гуртаваліся самыя непрымірымыя.

...Праз шмат гадоў на Кіеўскай канферэнцыі вязьняў непрыкметны стары чалавек папрасіў слова, падыйшоўшы ў перапынку да прэзыдыума. «Як вас прадставіць?» «Адзін з кіраўнікоў Нарыльскага паўстаньня». Клімовіч пачаў сваю прамову, і тут з залы нехта выгукнуў: «Сябры, перад вамі аўтар Нарыльскага гімну!». Клімовіч убачыў, як ўстаюць і ідуць да трыбуны людзі — таварышы па паўстаньню...

«У СБМе не было ніякай палітычнай дзейнасьці, нас вучылі любіць сваю зямлю. СБМаўцы не пасьпелі нікім стаць, бо сталі настаўнікамі іншых у лагерах, — працягвае свае развагі Рыгор Клімовіч. — Дзейнасьць СБМ выявіліся менавіта там».

Ня раз беларусы за лагерным дротам уздымалі рух Супраціву, і 20-25-гадовая СБМаўцы прымалі на сябе першыя кулі. Прыкладам стаў Кенгірскі лагер ў Сьцеплагу, дзе паўстанцы-вязьні больш за месяц утрымлівалі лагер ў коле савецкіх танкаў, не атрымліваючы спачуваньня ні ад кога, апроч сялян-чачэнцаў, якія спрабавалі дапамагаць ім хлебам. Сярод тых, хто у апошні дзень паўстаньня з самаробнай «зброяй» ішоў на танкі, былі беларусы. У сьпісе герояў ёсьць імёны былых СБМавак Надзеі Дземідовіч, Веры Касмовіч, Марыі Азаркі, Веранікі Катковіч, Яўгеніі Шостак. У Сьцеплагу ўдзельнічалі ў Супраціве Васіль Неліповіч і Васіль Каўшыла; у Мінлагу змагаўся Сямён Раманьчук і Глушкевіч з Бабруйску; у Рэчлагу — Алесь Шавейка. Імёны дзесяткаў беларусаў зьніклі разам з іх магіламі.

Некалькі гадоў таму на Украіне былыя вязьні прынялі на сваёй канферэнцыі вельмі кароткую рэзалюцыю: «Прызнаць камунізм інтэрнацыянальным злом, сябе лічыць у стане няспыннага змаганьня з ім пажыцьцёва». Праведзеная ж у Мінску канферэнцыя па праблеме бальшавіцкага генацыду выклікала толькі шквал абурэньня з боку дзяржаўнае прэсы.

Гэта зразумела — у краіне, дзе дагэтуль сьвяткуюць юбілеі ЧК, ня можа быць размовы пра прызнаньне гераізму і мужнасьці колішніх сталінскіх вязьняў. Ня зьнішчыўшы іх фізічна, злачынная сістэма можа спадзявацца толькі на тое, што іх імёны разам з гістарычнай праўдай самі адыйдуць у нябыт.

**Ц. ПАЛЫНСКАЯ**

 



# Гвалт у месцах пазбаўленьня волі

СНІД у месцах пазбаўленьня волі — гэта рэчаіснасьць сёньняшняга дня.

Кожны, хто цікавіцца праблемай зьняволеных, вельмі часта сутыкаецца з гаротным становішчам тых, каго на зоне называюць «апушчанымі».

Гісторыя савецкага перыяду перасьледу гомасэксуалаў бярэ свой пачатак з трыццатых гадоў, калі рукою Сталіна быў падпісаны ўказ, паводле якога караліся геі і лесьбіянкі. З тых часоў пачалося сапраўднае «бязьмежжа» у калоніях.

І ў наш час штодзённа сотні людзей гвалтуюцца ў месцах пазбаўленьня волі. Ахвярамі гэтага гвалту найперш становяцца фізічна слабыя людзі, прычым амаль заўсёды гетэрасэксуальнай арыентацыі. «Караюць» тых, хто «вінаваты» паводле турэмных законаў. Вельмі часта «апускаюць» прыгнечаных, хто знаходзіцца ў залежным стане ад тых, хто ў іерархічнай лесьвіцы ў калоніях займае больш значнае становішча. Свае сэксуальныя патрэбы гэтыя людзі задавальняюць, гвалтуючы слабых, уцягваючы ў палавы кантакт тых, хто ўпершыню патрапіў «на зону» і ня ведае няпісаных правілаў жыцьця ў месцах пазбаўленьня волі.



Пры медыка-сацыялагічным дасьледаваньні, з 246 зьняволеных, якія мелі вядомыя лагернай адміністрацыі гомасэксуальныя кантакты, кожны другі сказаў, што быў згвалтаваны яшчэ ў камеры папярэдняга сьледства, 39% — па дарозе ў калонію і 11% — у самім лагеры. Большасьць гэтых мужчын раней ня мелі гомасэксуальнага вопыту. (І.Кон Сьвятло месяца на зары. М.1998 г.)

У калоніях, для непаўнагадовых гвалт зьяўляецца найбольш распаўсюджанай зьявай. Адміністрацыя калоній глядзіць на гэта «скрозь пальцы», часам гвалтаўнікі заахвочваюцца кіраўніцтвам. Прычым ва ўсіх калоніях актыўныя партнёры ня лічацца, «паводле турэмных законаў, гомасэксуаламі і карыстаюцца павагаю і пашанаю. Жахлівае становішча «апушчаных» і разгул сэксуальнага гвалту ў турмах і лагерах падрабязна апісаныя ў шматлікіх дысідэнцкіх успамінах.

«...Часам дастаткова мець мілавідную зьнешнасьць і слабы характар. Так бы мовіць, павялі атрад у лазьню. Памыліся (зрэшты, якое там мыцьцё: кран адзін на сто чалавек, шаек не хапае, душ не працуе), выйшлі ў прылазнік. Злодзей, які кіруе працэсам, абводзіць усіх ацэньваючым поглядам. Вырашае: «Ты, ты і ты — застаецеся прыбіраць», — і нядобра ўсьміхаецца. Хлопцы, на якіх выпала, вяртаюцца назад у памяшканьне лазьні. У перадбаньнік з рогатам увальваецца зграя вядомых аўтарытэтаў. Яны распранаюцца і, сіза-блакітныя ад суцэльнай наколкі, іграючы мускуламі, праходзяць туды, дзе толькі што зьніклі нашыя хлопцы. Атрад выводзяць. Позна ўвечары хлопцы вяртаюцца заплаканыя і забіваюцца ў кут. Да іх ніхто не падыходзіць. Лёс іх вызначаны...» (Самойлаў Л. Перавернуты сьвет).

Гэта водгук мінулага, але прывяду вытрымкі з сёньняшніх лістоў зьняволеных.

Б.М. з Глыбоцкай калоніі: «...Мяне згвалтавалі, і цяпер я сяджу ў памяшканьні камернага кшталту за «адмову ад зоны». Чаму я не хачу ў ёй быць? Дык мяне цяпер усе будуць гвалтаваць, а жыцьцё гэтае — не для мяне. Гвалтавалі мяне п'яныя зэкі... Як мне жыць там, на волі? Хутка надыйдзе час вызваленьня, а чуткі пра тое, што мяне згвалтавалі, дайшлі да дому, ліст з калоніі зрабіў сваю справу. Я гвалтаваць сябе ня дам, я лепей скончу самагубствам...»

С.П.: «... Незаконна быў асуджаны паводле артыкула 115-га. Адміністрацыя калоніі не магла мне даравацъ таго, што я жыву разам з усімі, а ня з «пеўнямі», і давяла мяне да такога стану, што я быў вымушаны выкінуцца з высотнага будынку ў калоніі на асфальт, а калі вярнуўся да прытомнасьці, пачуў замест спачуваньня: «Ну, што, яшчэ жывы, гадзіна?». Цяпер я інвалід першай групы...»

Падобных лістоў «з зоны» шмат. У іх крык аб дапамозе, паведамленьні пра грубейшыя парушэньні элементарных чалавечых правоў у калоніях: штохвілінныя гвалты, забойствы, уціск з боку адміністрацыі. Гэтыя лісты поўныя веры ў тое, што ўрэшце будзе зруйнаваная сама сістэма, якая спарадзіла «бязьмежжа» у месцах пазбаўленьня волі і падчас сьледства.

Адной са спробаў вырашэньня праблемы гвалту ў месцах пазбаўленьня волі магло б быць стварэньне незалежнай міжнароднай камісіі па гэтай праблеме. Пытаньне сексуальнага гвалту павінны вывучаць кампетэнтныя сьпецыялісты, праводзячы ананімныя апытаньні ў калоніях без удзелу мясцовай адміністрацыі.

Адміністрацыі калоній намагаюцца заглушыць гэтую праблему, усяляк замоўчваюць пагрозу катастрофы для ўсяго нашага грамадства. Размова ідзе пра генафонд, пра само жыццё. Месцы пазбаўлення волі сталі ачагамі эпідэміі СНІД. Паводле афіцыйных дадзеных, больш за трэць спаражаных ВІЧ-інфекцыяй у Беларусі знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі. Аднак з размоваў з былымі і цяперашнімі зьняволенымі можна зрабіць выснову, што абследаваньні на наяўнасьць віруса прыкладна ў 50% выпадкаў не праводзяцца ўвогуле. У тых месцах, дзе такія абследаваньні праводзяцца, яны ідуць з парушэньнямі элементарных правілаў — ін'екцыі і забор крыві праводзяцца нестырыльнымі шпрыцамі, што стварае прамую пагрозу распаўсюджваньня СНІДу паралельным шляхам. Да таго ж, пры гомасэксуальных кантактах, на распаўсюджваньне віруса ад аднаго чалавека да другога па ўсёй калоніі трэба ня больш аднаго месяца.

У Міністэрства ўнутраных спраў няма сродкаў, каб забясьпечыць усіх зэкаў бясплатнымі прэзерватывамі. Нядаўні дазвол на продаж кантрацэптываў у турэмных крамах праблемы вырашыць ня зможа.

**ЭДВАРД ТАРЛЕЦКІ**



 

## Андрэй Мельнікаў

# Вандроўка за краты

Першыя ўражаньні ад гарадзенскага СІЗА агаломшваюць. У турме непараўнальна лягчэй тым, хто зразумеў правілы і асаблівасьці тутэйшага жыцьця.

Кароткая размова з тоўстым дзяжурным прапарам у памяшканьні для вобыскаў (пакоі, дзе зьлева — доўгі стол і крэслы ля вокнаў, справа — доўгая паліца на ўсю сьцяну), пасьля зэкаў раскідаюць па «стаканах». Трапляю ў «стакан» №2. Тут плошчы — прыкладна метр дваццаць на метр дваццаць, высокая столь, абабітыя бляхай дзьверы і дзьве лаўкі па баках. Пэўна, для цыркуляцыі паветра бляха папрабівана цьвікамі. Абавязковае вочка, якое чамусьці не зачыненае, што дае мне магчымасьць назіраць за падзеямі з супрацьлеглага боку дзьвярэй. Над дзьвярыма — выцяжка і лямпачка за кратамі. У «стакане» я адзін. Ёсьць магчымасьць трохі разьмяцца і тым сагрэцца.

Звычайна «у стаканы» месьцяць перад вобыскам, адпраўкай на допыт, на суд, на этап — пры любым перамяшчэньні зэка за межы турмы. Вось у такі — метр дваццаць на метр дваццаць — набіваюць часам васемнаццаць-дзевятнаццаць чалавек.

Літаральна праз некалькі хвілінаў звонку зьяўляецца... Шарамет. Яго заводзяць у пакойчык насупраць і робяць вобыск з поўным распрананьнем. Яшчэ на волі я чуў пра тое, што Павел зьбіраецца ісьці на галадоўку. Я галадаў усяго дзесяць сутак, прычым не адмаўляючыся ад напояў, але ўжо заўважна схуднеў і аслаб. А з таго боку дзьвярэй быў Павел Шарамет, упітаны і круглатвары. Але першае ўражаньне было падманным. Я зразумеў сваю памылку толькі пасьля. Праз некалькі месяцаў зьняволеньня я і сам стану такім, нягледзячы на досыць частыя адна-двух сутачныя галадоўкі.

Умовы сьвінарніка, малая прастора, дзе любы энергічны рух пазбаўляе кіслароду, таму большасьць часу сядзіш ці ляжыш, спакойны сон і тлушчава-углеводзістая ежа даюць чалавеку менавіта такую перспэктыву, калі ён не апантаны курыльшчык ці чыфірыст.

Калі Шарамета, скончыўшы вобыск, выводзяць, крычу: «Павел! Андрэй Мельнікаў! «Беларуская Маладзёжная»! Тоўсты прапар бурчыць: «Каму там плоха?!» і зачыняе вочка на маім «стакане», але ёсьць яшчэ сантыметровая дзірачка на ўзроўні сьцёгнаў. Назіраю далей.

Праходзіць няшмат часу, чуецца шум на вуліцы, і ў пакой насупраць завальвае з дзесятак чалавек з «кешарамі» (кайстрамі). Нехта з іх у сініх зэкаўскіх кепачках, у кагосьці з сабой «цялагі». Людзей вокрыкамі выстройваюць уздоўж паліцы, там застаецца большасьць іх рэчаў. Пачынаецца раскідваньне па «стаканах».

У мой «стакан» набіваюць яшчэ дзевяць чалавек, пасьля чаго звонку ўсё сьцішваецца. Здаецца, там у іх перапынак на абед.

Скрозь сьцяну вушэй дася-гаюць жаноцкія галасы, відаць, з суседняга «стакана». Першыя жаноцкія галасы за дзесяць з гакам дзён! Мае калегі па «стакану» таксама ўзбуджаныя, заводзяць з суседкамі перакрыкваньне. Здаецца, усе ягоныя ўдзельнікі адзін аднаго няблага ведаюць і ехалі ў Гародню разам.

На лаўках сядзім паперамена. Утрох на кожнай. Некалькі чалавек пачынаюць паліць. Робіцца душна і горача. Мае сукамернікі з лідскага сьпецэтапа. Многія — ужо пасьля суда. Адзін, увесь у «масьцях» (татуіроўках), не вытрымлівае, хоча у прыбіральню. Малоцім у дзьверы, крычым. Яго выпускаюць секунд на дваццаць і вяртаюць назад з цэлафанавым пакункам. Мочыцца туды, завязвае пакет па краях і кладзе пад лаўку. Пакунак пакрыху працякае. Духата павялічваецца. «Масьцёвы» часта заходзіцца кашлем, па ягоных словах, у яго «тубік» (туберкулёз), і нейкае з лёгкіх разбурылася. Але паліць яму гэта не замінае.

Перад вачыма плыве. Заўважыўшы мой стан, суседзі раяць зьняць штармоўку: «Ну, што ты як у першы раз!?» Здымаю, але лягчэй ня робіцца, пачынаю за'вальвацца, здаецца, на нейкі момант страчваю прытомнасьць. Дапамагаюць уладкавацца на лаўцы, нехта дае чвэрць таблеткі валідолу. Вяртаюся ў адносна нармальны стан.

Гаворкі ў асноўным ідуць пра перапетыі адбыўшыхся судоў і хто на якую трапіць «зону». Калі размова заходзіць пра бясправаўе зьняволеных, пра няведаньне, куды зьвярнуцца пры парушэньні правоў, вырашаю, што тут і я кампетэнтны. Да таго ж ёсьць нагода парэкламаваць любімую «Беларускую маладзёжную». Называю тэлефон «БМ», кажу, што там могуць дапамагчы зьвязацца і з «Хельсінкскім камітэтам», і з «Камітэтам па правах чалавека», і з іншымі праваабарончымі арганізацыямі. Пры гэтым можна спасылацца на мяне.

Абед з таго боку цягнецца больш за паўтары гадзіны. Нарэшце пачынаюць выдзёргваць са «стаканаў». Дыхаць вальней. Ізноў застаюся ў адзіноце. Скрозь дзірку назіраю, як абыскваюць і ўводзяць нейкага казаха. Абыскваюць і ўводзяць Мізулу. А вось і мая чарга.

Вобыск з поўным распрананьнем. За доўгім сталом некалькі «мянтоў» з рознага кшталту пагонамі: ад старлея і ніжэй. Нехта з іх праглядае рэчы, нехта задае пытаньні, у асноўным — анкетныя, нехта піша. Адзін з мянтоў зьвяртаецца да вусатага калегі: «І гэты — твой зямляк!» Агульны мянтоўскі рогат.

На пытаньне аб прафесіі адказваю, што кіраўнік дзіцячага гуртка ў школе і журналіст. Вусаты задаволена пасьміхаецца: «Скора Бацька вас усех васьпітае». Канфіскоўваюць матузкі з чаравікаў (каб не павесіўся), чырвоны стрыжань з асадкі (перад выездам разжыўся ёй на ІВСе) і ўсе паперкі, апроч афіцыйных бланкаў меры прысячэньня і асабістага вобыску. Сканфіскаваныя рэчы, акрамя стрыжня, ляцяць у кучу сьмецьця, якое складаецца пераважна з матузкоў і паперак. Так для мяне гіне ўзьнёслы Алегаў верш пра мае сьпевы на дзесятыя суткі галадоўкі. У кішэнях застаюцца насоўка, аловак і рэшткі грыбоў, сабраных у лесе па дарозе на Вільню.

Вобыск скончаны. Па калідоры пад канвоем (усе перамяшчэньні зэка, за выключэньнем «баланьдзёраў», але пра іх яшчэ будзе нагода ўзгадаць, зьдзяйсьняюцца пад канвоем) топаю ўглыб будынка за краты.

(Працяг. Пачатак у №№ 15-19)

(Працяг будзе)

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Рэдактар Алесь Бяляцкі.
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англейскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail: rights@v96.open.by

У нумары скарыстаны фотаздымкі У. Сапагова, малюнкі і здымкі з архіва Камітэта "Вясна-96"